# *ВЕРШЫ*

## *Пошук*

А шлях раўнюткі, быццам лісцік,
ляці –
каб вецер у вушах!..
Як гэта лёгка памыліцца
і па чужых
                    пайсці шляхах.
Няхай яны імкнуць, як стрэлы,
няхай шырокія яны! –
Стаю адзін.
У небе –
                дрэвы
і жураўліныя кліны.
Лісты апалыя на стрэсе...
Але чакай,
                    няўмольны час:
я маю права
ўсё закрэсліць
і потым
                нанава пачаць.

*1964*

## *Маланка*

Імкліва вымкне
сілай сіняй
з глыбінь насупленых начэй,
асветліць дол,
жуду асіны
і зрэнкі
            стомленых вачэй.
Абпаліць жорстка хмар абрысы,
разбурыць ночы змрочны склеп –
каб свет
            нудоце не скарыўся,
каб свет
            у цемры не аслеп!

*1965*

## *Мова*

Празрысты звон,
грымотны грукат,
скалісты свіст,
магутны гул –
усе
разрозненыя гукі
цяклі,
каб зліцца
у агул.

Хісталі
ўздыбленыя далі,
глыбаста білі ў небасхіл.
І ў немату не прападалі,
а западалі
і раслі.
І ціш і гром,
і звон і шорах
спляліся
ніткаю радства,
калі з грудзей,
нямых і чорных,
аднойчы
мова прарасла.

*1965*

## *Спякота*

Ацяжалелай галавы
ніяк
сцяблінка не падыме.
І прагнуць ліўню паплавы,
нібы цяля
            тугога вымя.
А цішыня,
як партызан,
праходзіць чуйна сцежкай вузкай.
І прагнуць неба аблізаць
ракі
      парэпаныя вусны.
І сонца
з соснаў баравых
цярэбіць
          сонную ігліцу.
...А дзесьці
              спеюць бураны,
а дзесьці
            спеюць навальніцы.

*1965*

## *Адкрыццё*

Прысняцца
                    жоўтыя іконы,
і твары строгія святых,
і перапэцканыя колы
сярод вясновае слаты.
Бы некранутую ажыну,
я адкрыццё
                    убачу ў сне.
Яго шукаў я прагай жылаў
і прагай мараў
у вясне.
Чатыры крокі па кватэры
праз ноч,
                    няўтульнасць,
                                        забыццё.
О, неразважлівая вера
у будучыню і ў адкрыццё!..
Ўзнікалі профілі вялікіх
на сшытку, скрэсленым у дым,
дзе запаветныя разлікі
і лічбаў важкія рады.

А то, мінаючы раздзелы
разваг, бяссоння абалонь,
нібыта яблык пераспелы,
само ляцела
у далонь.
Сусед,
гаворкай падагрэты,
пад шчодрай яблыняй гавеў.
І білі буйныя ранеты
па неразумнай галаве.
А адкрыццё
брыло начамі
пад гоман рэчак і асін,
у выпадковасці адчайнай
невыпадковае зусім.
Трывожны лоб.
Сівыя скроні.
Скупы пагляд.
Міжвольны рух.
І прарывалася,
як промень,
і вырывала з цемры круг.
І, адступіўшы ад парога,
вятрыскам
грукалася ў дах...

О, адкрыццё!
Твае дарогі
яшчэ ніхто не разгадаў.
...Ляцяць
гіганцкія арэлі,
азёраў кубкі
і масты,
ды ападаюць на карэнне
начныя цені і лісты.
На твары месяца сляпога
бяссоння
цьмяныя сляды.
Бы першабытны помнік богу,
карчага высіцца з вады.
Сякуць
шалёныя падковы
лугоў напятае крысо...
І кожны момант
выпадковы,
і выпадкова
адкрыццё.

*1965*

## *Немагчымае*

Тваё бары
ў цішы напеўнай
страляюць стромка ўвышыню.
Твая зара бунтуе гнеўна,
як кроў,
як полымя агню.

Дымяцца горача, як рана,
твае рачныя паплавы...
Задумай велічную справу
і абвясці:
«Іду на вы!»

Сівы стары хісне плячыма
і, быццам гледзячы ў ваду,
прамовіць мудра:
«Немагчыма,
як два разы быць маладу».

Пакажа доўгія разлікі
і стосы спісаных папер...
А ты ў рашучасці вялікай
яму сягоння не павер.

Не адступаючы ні разу,
твары,
высноўвай
і палай!..

Твая энергія, як лазер,
разрэжа
                    неба напалам,
праб’е
               без грозных грукатанняў
свяціла выпучаны шчыт –
і сумны свет другою гранню
перад табою заблішчыць.

Калі засмужыць часам
                                        вочы
сумненне хмараю сівой,
застынь у роздуме паўночным
сам-насам
                       з мэтаю сваёй.

Хай над табой
                                 агнямі Прэсні
палаюць
                     ягады рабін.
Паўстань,
                       распніся,
                                           уваскрэсні
і немагчымае зрабі!

*1966*

***

Ноч гасіць у вокнах агні
і дыхае ветрам і лёдам.
Нібыта ў рацэ акуні,
ўва мне
            касякі мелодый.

А я,
непапраўны рыбак,
з няпэўнай надзеяй на ўдачу
хаджу па нямых берагах,
чакаю,
          маўчу
                    і рыбачу.

*1966*

## *Чалавек*

Касматы,
першабытны,
нізкалобы,
яшчэ не чалавек,
упершыню
ён аглядзеў –
загадкавая спроба –
дрымучымі вачамі вышыню.
Яна цякла,
палала,
зіхацела,
уздрыгвала агеньчыкамі зор.
Ён разагнуўся мускулістым целам,
узняўся і – уражаны –
замёр:
працяты невядомым запаветам,
апалены
высокай сінявой,
нібы Атлант, –
нагамі
у планету
і ў нерухомы купал –
галавой.

*1966*

## *Вытокі*

Адпачыць ад непаладку,
шуму,
гвалту,
калатні
уцякаем без агляці
у зацішныя куткі.
Праз лясы сцяжына тчэцца –
каляіна,
капыток...
Там маленства чалавецтва,
там пачатак,
там выток.
Там гуляе ў пазалоце
з рыжым промнем дацямна
на вярбе пушысты коцік,
быццам з ніткай кацяня.
Любата...
Брыдзем узмежжам
нетаропка,
без турбот...
Ды прывабіць непазбежна
ў сталасць мудрую
зварот.

*1967*

## *Эксперымент*

З глыбінь,
як лава з кратара,
вырвецца распад.
Экс-
пеpы-
мен-
та-
та-
ры
не ідуць назад.
Азонам вее ў зале
ды ліловее шкло.
Святло,
што вызвалялі,
ім сэрцы апякло.
Учора за гарамі,
цяпер выразна,
тут...
Лаві, кардыяграма,
узмахі амплітуд!
Агні,
дажджы
і здані
вандруюць за сцяной.

Мы плацім за пазнанне
нязнанаю цаной.
А маладому сняцца
усмешкі і руччы...
Адчайна мітусяцца
спакойныя ўрачы.
Загінем – не загінем,
бадай, не ў гэтым сэнс...
Работу,
            што пакінем,
наступны данясе.
Такое наша шчасце,
калі далёкі
хтось
праз многа-многа часу
нягучна скажа: ёсць!
...Прыпаў да занавескі
знясілены прамень,
акамянела
              вестка...
.............................
Жыве эксперымент!

*1967*

## *Шчасце*

Твой недаступны лёс,
                                        музыка,
пасуе велічы тваёй.
Як неадкладную пазыку,
як у глыбіні з галавой,
да ачмурэласці,
да стомы
аддаць усё, усё аддаць,
і – неістотнаму самому –
хадзіць,
                смяяцца,
                                уздыхаць.

*1967*

## *Паганіні*

Гады
змясціліся
ў хвіліне,
рука
прыпала да пяра...
Пара, маэстра Паганіні,
вас зачакаліся.
Пара...
Нашчадкі бога Апалона –
паэт,
музыка
і мастак,
о як вы прагнулі палону,
каб гулка крочыць па мастах,
каб расхінаць, нібы адзенне,
стагоддзі,
далі,
галасы...
Дажджы дрымучыя гудзелі,
нібы зялёныя лясы.
Вятры шумелі
і мычалі,
і святкавалі ваш палон.

А вы маўчалі,
і начамі
да вас з'яўляўся Апалон.
Густая ціш,
як перад шквалам,
усё самлела – ні шу-шу...
А скрыпка плакаць пачынала
і развярэджвала душу.
Вы атрымалі, што хацелі,
вы дасягнулі, што маглі.
Але чаму
у грэшным целе
таго агню не зберaглі?
Нібы дакор,
які не згіне,
стаіць, захутаны у плашч,
бунтоўны геній Паганіні,
царквой асуджаны скрыпач.
Рука
камечыла пальчатку,
паліла навалач папер.
О як вы марылі спачатку!
О як вы гаснеце цяпер!..
Трывога...
Воклічы...
Пагоня...

Застаў агні...
Парог...
Радня...
Ніхто не ведае сягоння
дарогі заўтрашняга дня.
Шынкі сустрэнуць,
быццам свахі,
і шапаток:
«Любой цаной...»
Нібы марудныя манахі,
ішлі гадзіны за сцяной.
Той адрачэцца,
той загіне,
той хмура сыдзе
у труну...
...Неўтаймаваны Паганіні
кранае першую струну.

*1968*

## *Сакавік*

Яшчэ навінаю сумненне
і нечаканасцю
азы:
пасля завеі – пацяпленне,
пасля адлігі –
маразы.

Ды свет, заручаны з палётам,
ужо натхнёны,
сам не свой...
Дыханне цепліцца пад лёдам,
буянне –
ў скібе веснавой.

І ўсё наіўна верыць чутцы,
што адыходу
не бываць...
Тым – з-пад завеі не ачнуцца,
тым – з новай сілай
забуяць.

Чый недавер,
чыя нуда,
чыё няведанне сплывае?
Мармыча цёмная вада,
вада празрыстая спявае.

Відаць, далёка завяло –
ау – пярэдаднем бялёсым
чакаць таго, што не было,
крычаць таму, што не збылося?!

Яшчэ пад снегам сакавік,
яшчэ не страчана нічога,
і прадчуваецца ускік
неакрыялага жывога.

*1968*

## *Дрэвы*

На ўсход
гарлапаняць пеўні,
а захад,
як боль,
прыціх.
Губляючы вас, напэўна,
губляем сябе саміх.
Пляліся рукамі людскімі
і лапці,
і кашалі...
Вы нашы браты,
якія
па нашых слядах не пайшлі.
Вы засталіся шумліва
расці ўвышыню і ўглыб,
каб рушылі мы шчасліва
дарогаю птушак і рыб.
Мо быў бы наш крок дарэмны
і ўсхліпам быццё сплыло,
калі б,
паміраючы,
дрэвы
не слалі сваё цяпло,

калі б не паілі нас ветрам
у душныя ночы і дні,
калі б не ішлі
у нетры
шурпатыя іх карані.

О як хрустальна штогод
звінела лісцё
і каралі...
Ды ў час шалёных нягод
яны разам з намі
ўміралі.
Закручаны рух учарашні
і заўтрашні
ўшчэнт,
да вузла...
Нам дзіўна,
нам горка,
нам страшна,
што вы не трымаеце зла.
Сякера звінела і секла,
ды шчодры,
як брага,
азон...
Пашчасціць –
у самае пекла
шпурне нас вар'яцкі разгон.

Вяртаемся бесперастанку,
як хворыя,
                зноў і зноў
да вашае калыханкі,
да шэпту зялёных слоў.
Вы нас разумееце моўчкі,
нам большай любві не сустрэць...
А красак дасціпныя вочкі
нам будуць у вочы глядзець.

Расхрыстаны,
                    перамогшы,
дыхае лес пад дажджом.
Мы ваша цвіценне ўбярогшы,
тым самым
                сваё ўберажом.

*1969*

## *Запавет*

Надломы – не яму надломы,
пярун – і гэта не яму...
Ўздымацца дрэву маладому,
мацнець
          праз лета і зіму.

І захаваць не проста звесткі,
а запавет на ўсе часы:
тады выстойваюць падлескі,
калі выстойваюць лясы.

*1970*

## *Радзіма*

Радзіма, да цябе з мальбой
і нараканнем
не скрануся.
Я ў весялосці не з табой,
з табой у роздуме і ў скрусе.

Высвечвала бяздонным дном,
ў акно ўзіралася з'інела,
і ведзьмавала туманом,
і летам бабіным звінела.

Калі будзіла весялосць?!
А прахаплюся — ты ўсё будзіш.
і мне няўцям, адкуль ты ёсць,
адкуль пасля з'яўляцца будзеш.

Ты не ўмяшчаешся ў куток,
дзе трызніць Буг, дзе Белавежа...
Тваe не вызначыць мне межы
і не намацаць твой выток.

У свет балючы дабяла,
у снежны свет, мае усходы
ідуць: там ты... там ты была!..
Ты ўся наводдалі заўсёды.

*1970*

***

Не распнутае доляю ўбогай,
не пранізанае свінцом,
абкладаецца сэрца аблогай,
зацiскаецца жорсткiм кальцом.

Зайчаня маё, сэрца, бяжы,
затаіся дзе-небудзь,
замоўкні...
Гэта восень на рубяжы,
лістапад зазірае ў вокны.

Перагледжаны тайнікі:
можа, там ты,
і ў каруселі
з дрэў бязмоўных тваe двайнікі
спапялёныя абляцелі.

У тузе, у смузе, ў баляванні,
ў свеце сонечным і сівым
пільна цягнецца паляванне
за намацаным сэрцам сваім.

Трапяткое стварэнне прыгоды,
усяісная сутнасць біцця –
удыхнула дыханне ў прыроду,
небыццё узняло да быцця.

Мысліць воблака і зіма,
мысліць возера і дарога...
Ды няма ў іх, няма ў іх, няма
неспасціжнага сэрца жывога.

Як бянтэжыць між звыклых трапецый,
між настылых канструкцый, між... –
што калоціцца і трапеча,
нетутэйшае... Богам звыш...

Утаймоўваюць пераплёты,
і бяскрылы мкнецца закон
збіць высокае неба палёту,
супыніць ашалелы гон.

Грукачы, грукачы, грукачы,
уцякай у туман,
у бязмежнасць...
Раскрычаліся крумкачы,
абвяшчаючы непазбежнасць.

Буду – хваля свайго адплыцця,
буду – попел,
                    развеяны ў смерці, –
грукат сэрца, жывога сэрца
ўздыме нанава да быцця.

*1970*

***

Адно сказаць,
як пішацца – пішы,
не мудрагеліць,
слухацца натхнення...
Кляймёныя адзнакаю душы,
тваімі стануць гэтыя імгненні.

Пішы –
і паслухмяная рука
накрэсліць знакі,
словы занатуе
і перадасць пульсацыяй радка
суіснасці пульсацыю крутую.

Магчыма, справядлівы меркаванні:
і тэму ўзняць,
і рух адлюстраваць...
Ды кожны раз тваё выратаванне
і клопат твой – як пішацца, пісаць.

У двух часах
з сумненнем і надзеяй,
у двух часах спыняюся, бягу...
Але заўжды
па-новаму не ўмею,
а па-старому ўмею –
не магу.

Што застаецца нам ад летуценняў,
што самі пакідаем мы ў жыцці?
Адно сказаць –
прыйшлі б у час здзяйсненні,
а іншае –
самім да іх прыйсці.

Самаахвярны клопат
блаславёны.
Не згіне свет з адмецінай душы...
Ёсць рацыя сказаць:
жыві натхнёна
і паўтарыць:
як пішацца – пішы.

*1971*

## *Арышт Кастуся Каліноўскага*

Аблога...
Крокі...
Ляск...
Прыцемненыя сцены,
і дрогкай свечкі бляск,
і на парозе цені.
І месяц паўз акно
слізне, як паражэнец –
на схіл усё адно...
Як зваць вас?
Вітажэнец.
Утойваюць муры,
сцярожкі бор таемны
да іншае пары
імя яго нядрэмна.
Да іншае пары
пакінуты сякеры,
да іншае пары
сышлі касіянеры.
І запазычан край,
і аціхаюць znічы...
Хавай,
хавай,
хавай
сапраўднае аблічча!

О, наступ нематы –
нябога... вырaджэнец...
І ўжо знікаеш ты...
Няма ўжо...
Вітажэнец...
Ні вучняў, ні сяброў...
Сарвецца шлях памглёны...
Як волю і любоў,
дае нам час імёны.
Учэпяцца... –
з пятлёй –
не выбіцца... –
                    ажэняць...
Па той бок – што па той?..
Па гэты –
Вітажэнец.
Заўжды – адзін адказ,
утойванне... змяншэнне...
Але прыходзіць час
імя і ўваскрашэння.
Ўсе ніці – у сувой,
у заклік пагалоскі
з'яднаць –
                    і стаць сабой!..
Як зваць вас?
Каліноўскі.

*1973*

## *Папярэджанне*

Час абарваны...
Сню нябыт...
Абрабаваныя пагляды...
Нібы сплывае ў плыні плыт,
срабрыста свеціцца спагада,
і ззяе захад залаты,
і сны расплаўленыя
паляць...
Расперазаныя плыты –
сплывае спадчына і памяць.
І праступае праз зеніт
крыж зорны
ў зорным карагодзе...
А мне і долі –
сню нябыт –
крыж Богшы Лазара ўзыходзе.
Рукою творцы і суддзі
да судных дзён,
каб, быццам раны,
смылелі словы –
не ўкрадзі
і не аддай! – занатавана.

І славу – прэч,
і ўцеху – прэч...
У змрочнай пільнасці астралу
цябе дзялілі зман і меч,
а папярэджанне вяртала.
У камянях хаваўся след,
і пераймалі футаралы,
і зацінаўся бранзалет...
А папярэджанне вяртала.
Няўжо не вернешся цяпер?
Ці ўжо няма куды вярнуцца?!
І толькі цягнецца няўцерп
час абарваны... –
звёны рвуцца.
Былы і новы парадні,
злучы ў адзіную сцяжыну!
Якая скруха дзень пры дні
цябе праводзіць на чужыну.
Якая бездань – не змагчы,
не памагчы,
не ўзяць з палону...
Не лес выносны – а карчы...
Што прызначалася для плёну?
Што лёс паклаў?
А з мітульгі –
у перападах не прystала –

прадвесце славы і тугі
глядзіць маўклівая Прадслава.
І той жа зор, і той жа твар...
Я сню нябыт.
Якое ранне
адзначыў зорны каляндар?!
Гняце няпамяці цяжар.
Праменна свеціцца вяртанне.

*1973*

## *ПУНКЦІРЫ*

*

Калі ўсе згублены ключы,
калі ні шанцу,
анічога –
усё ж ідзі,
любі,
крычы
і пасягай на перамогу.

*

Не вернецца воін,
вандроўнік не вернецца,
вернецца сейбіт...
Заўсёды вяртаецца сейбіт.

*

Перакладаю шэпт дажджу,
пагляд вачэй,
трымценне гаю...
Кранаю,
слухаю,
гляджу,
я не пішу – перакладаю.

*

Піць малако...
Не ведаць млосці,
не вандраваць па гарадах,
быць маладым у маладосці
і памяркоўным у гадах.
Піць малако.

*

Пеўні,
пазвязаныя матузамі:
іх прадаюць –
а яны співаюць.

*

Нехта надзвычай знаёмы –
быццам світала ўваччу –
набліжаўся насустрач.
Ах, гэта проста
жаночая прыгажосць.

*

Не бойся, муха-нязграба:
хіба я стану сягоння
цябе чапаць,
калі зіма пераджыта?!

*

Стаіўся за дрэвам –
і для паловы свету
стаў толькі дрэвам.

*

Садзяць бульбу:
цяпер
думай сама,
турбуйся сама,
як выбрацца з гэтай сховы.

*

Сад атуляюць плотам.
А ён усё роўна
цвіце для ўсіх.

*

Уранку я выйшаў з дому
і ўвесь дзень ішоў
у кірунку да сонца.
Якім супярэчлівым аказаўся
мой шлях!..

*

Зімовае сонца:
імкнуцца ўстаць
са снежнай пасцелі
цені.

*

Крывенькая яблыня ў полі –
хоча ўцячы
з гэтага месца,
дзе пасадзілі?!

*

Мокне на беразе возера
з вудай рыбак –
злоўлены язь
ловіць ротам дажджынкі.

*

Дождж!.. Дождж!..
І дзе ты быў усё лета?! –
плачуць сады.

*

Такая празрыстая далячынь –
відаць
нядаўняе лета.

*

Лужына.
Захапіла
жоўты кляновы ліст
і зашклілася лёдам:
е й н ы!..

*

Блукаю па Вільні.
На даўніх мурах
новыя назвы.

*

Дзе – старасць,
дзе – маладосць?!
Зацвілі
яблыні сёння.

*

Якімі высокімі павырасталі
быльнік і лебяда:
быў бы малым –
схаваўся б!..

*

Гронкі рабіны
зачырванелі:
ўгару
горнецца позірк.

*

Прыадчыніліся дзверы кавярні –
і зацвілі
у сцюжным паветры
пахі.

*

«І што за пачвара?!» –
крычаць
узбураныя вароны:
знікае
за дрэвамі верталёт.

*

Сонца ўздымаецца.
Цэлы дзень
будзе вучыць вас бачыць,
сляпыя пупышкі.

*

Чмель адлятае.
«Ужо?!» –
уздрыгвае кветка.

*

На камень каля стаўка
прымасціўся крумкач:
слухае жабіны песнаспевы.

*

Паспела –
й займела душу?
Ў жоўтай грушы
гаспадаруе аса.

*

Брама на могілках.
Колькі
людзей упусціла!..
Выпусціла колькі?!

*

Яблык упаў:
шукае
галіна ранейшую раўнавагу.

*

Лісты – у апёках:
з марозам
змагаецца крапіва.

*

Вяду з сабой
мглісты месяц:
у згадках
колішнія паэты.

*

Рана змяркаецца.
Са старою
бярэзінаю сарока
дзеліцца нейкаю навіной.

*

Спякота.
Хаваецца цень
у дрэва.

*

Пачакай, не знікай,
белая аблачынка:
мы зноў
сустрэцца не зможам.

*

Круціць на рынку
катрынку васпан:
разглядаюць
наўколле гукі.

*

Галоўнае – не выстаўляцца!..
Між шпал
разлапушыўся трыпутнік.

*

Глянула –
і са мною
схавалася ад мяне
яшчарка ў схову.
Бязлюдны хутар.

*

Дождж:
возера
ў акупунктуры.

*

Махае за плотам
лістотаю бэз:
адчапіся, сцюжа!..

*

І гэта не тое,
і тое не гэта:
з вядра
выкідвае смецце варона.

*

І першы промень табе,
і апошні:
мясцовая кірха.

*

Людна.
Прымерваю на сабе
шматлікія постаці і абліччы.

*

«Так доўга цябе не было!..» –
Сцяблінка
выжальваецца лістку.

*

Махае хаціна
хусцінаю дыму:
дома?!

*

Завея:
на левы бок
выварочваецца прастора.

*

Снежнае неба:
ляціць аднекуль
некуды чорнай
адтулінаю крумкач.

*

Заварушыліся валуны?! –
Да першай
травы прыпалі
баран і авечкі.

*

У гэтулькі нітак!..
Сшывае
зямлю і нябёсы дождж.

*

Сонца заходзіць:
у двое вачэй
узіраюся ў трэцяе вока.

*

Сабе ад сябе?!
Чырванее
ў руках у манашкі
цюльпан.

*

Раніца.
Гракае грак –
сшывае
час і прастору
суровай ніткай.

*

Выспалася?!
Паўстае
з возера выспа.

*

Быў бы дзікам –
займеў бы
спажытак: па жалудах
бадзяецца вецер.

*

Свеціцца ў цемры акно:
завіруха,
ідзі папытайся,
хто там.

*

Вецер і снег.
Шкада мне
вас пакідаць у полі,
мае сляды.

*

Да самага воблака ўзняўся
грудок,
а траве ахвота
яшчэ вышэй.

*

Давай пакатаемся!..
Грак
атабарыўся на таксоўцы.

*

Зазелянела вярба:
з азяра
цягнецца качка –
па пацалунак.

*

Што абяцаецца – будзе!..
У грудзі
б’е сябе гром,
жагнаецца бліскавіца.

*

Па самае горла:
ўвайшлі ў раку
гарлачыкі і чалавекі.

*

Удзень авадні,
увечары камары,
а конь
пасвіцца: лета.

*

Па́даю –
падаю́
руку то сасне,
то дубу.

*

З саломінаю:
нясу
ў руцэ падарунак ветру.

*

Воплескі даланёю
адною:
лунае
кляновы ліст над зямлёй.

*

Цвіці!..
Абняла
яблыню завіруха.

*

Адолелі:
дзьмухаўцы
ўздымаюць з-пад долу
сонцы.

*

Кумкаюць –
з неба
сцягваюць жабы
дождж.

*

Сцежка плыве.
«Сюдою
хадзі!..» – трыпутнік
абапал выслаў сляды.

*

Бераг у ценях –
плывуць вужы
возерам Доўжа:
ў галовах сонцы.

*

Імжа:
расплылася мяжа
між тым, што было,
што будзе.

*

Змяняецца гразь
на каменне –
мароз
паказвае розум.

*

У высі ўзняліся?!
Бялее
на дахах снег.

*

Навокал абрывы:
ў душы
вышукваю крылы.

*

Спалены –
абмывае
плынь пáлі:
мост.

*

Можа, адчыніцца?!
Ў браму
грукаем –
я і гром.

*

У снезе яліна:
жанчына
спынілася і глядзіць.

*

Такая і гэтакі:
талакуе
з маланкай дождж.

*

Уджаліла:
ў жалі
пчала
і я.

*

Слупам зрабіўся?!
Жаба
лупаціцца на рыбака.

*

Хмарыцца –
марыцца
сонечнае рамонку,
нябеснае васільку.

*

Пуста:
ідзе
да пудзіла бусел.

*

Наслалася снегу
стольк
і гэтулькі: у слаты
чыстая столка.

*

Рыхтуецца выстаўка?!
Над стаўком
вывешваюць ластаўкі
навальніцу.

*

Хвалі  вагаюцца –
намагаюцца
узняць са дна
глыбіню.

*

Гром у двары!..
Вісяць
заспетыя просціны
і хусціны.

*

За тыдзень Вялікдзень –
хвошча
сяброўка вярбою сябра:
хоча яшчэ?!

*

Неба глыбее:
аблокі
уцягваюць волакам
акіян.

*

Якія вялікія!..
Хвоі
уводзяць у дзень вякі.

*

З адтулінай:
дулю
дзялю з асой.

*

Хопіць напотым
клопатаў:
спіць
у лопуху хлопец.

*

Напасвілася:
каравай
паклала карова на выгане –
у аддзяку.

*

Брук у набытках –
адбітках:
лужа
сюды-туды рассылае
свае сляды.

*

Хілюся:
ляцяць
вуліцай гусі.

*

Адпушчаны –
з пушчы
ляціць у наступнасць
ліст.

*

Лотаць цвіце:
балота
скарб адтуляе
з патайнаты.

*

Ноч перайначваецца:
гляджу
у вочы маланцы.

*1966–2017*

# *ВЕРСЭТЫ*

## *Дарэшты*

У левую руку мне даюць паразу, але ў правую я паспяваю ўзяць перамогу.
Тады ў правую руку мне даюць радасць, але я працягваю левую руку і бяру скруху...

У мяне пытаюцца: хто ты? – і хочуць спыніць.

Я не адказваю, і не спыняюся.
Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу, па якой мушу ісці дарэшты.

*1980*

## *Пярэчанне*

Яшчэ здольны балець,
яшчэ здольны пакутаваць,
яшчэ здольны памерці,
я разбіваю душу і рукі аб камяні і сцены,
якія мяне абступаюць.

Я парываюся з мінулага ў сёння, з бяспекі ў свабоду.

Але мы твая абарона, – пярэчаць мне камяні і сцены, – мы тваё вонкавае цела, мы ратуем цябе ад спёкі і сцюжы, ад агню і вады, ад кулі і шаблі,

бо ты яшчэ не здольны не балець,
бо ты яшчэ не здольны не пакутаваць,
бо ты яшчэ не здольны не памерці.

*1981*

## *Спадчына*

Калі яна цяжар – тады яна крылы,
калі яна вярэдзіць – тады яна гоіць,
калі яна знясільвае – тады дае сілу...

– Аднак з гэтаю ношкаю ты не здолееш уступіць на неба, – перасцерагае мяне першы анёл.
– А без яе зноў упадзеш у мінулае, – перасцерагае другі.

Я іх абодва разумею.
Пісягі і апёкі на маім целе.
Віхуры клічуць мяне падужацца.
Зямля – частка мяне.
І агністыя мечы анёлаў пільна ўзіраюцца ў маю душу.

*1981*

## *Шыльдачкі*

На дрэвах – шыльдачкі.
На іх напісана, колькі якому дрэву гадоў,
як яно называецца, якая яго таўшчыня
і вышыня.

Людзі праходзяць міма дрэў, не заўважаючы іх, – яны чытаюць шыльдачкі...

А сведчанні дрэў так і застаюцца непачутыя,
а пісьмёны дрэў так і застаюцца непрачытаныя.

*1981*

## *Бязмежжа*

Палову жыцця падаюся ў свет, палову – варочаюся са свету,
палову жыцця пішу на дарозе свае імёны,
палову – закрэсліваю напісанае,
палову жыцця расту ад зямлі,
палову – расту з зямлёю:

і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа.

*1981*

## *На гэтай зямлі*

Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход, хто –
дарогу на захад...

Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім, куды
ісці, а сам застаюся на месцы – на гэтай
зямлі, пад гэтым небам,

занадта лёгкі для глыбіні,
занадта цяжкі для вышыні,
занадта цэласны, каб падавацца ў які-
небудзь бок...

Вось мая левая рука, вось – правая...
Я кладу зерне ў дол – і яно вырастае
ў дрэва: на адной галіне ў яго сонца,
на другой – месяц,
рознагалосыя птушкі з усіх канцоў свету
спяваюць на ім свае песні і ладзяць гнёзды...

Тут мой захад, і тут – усход.

*1982*

## *У крузе*

Свет бязмоўна дапытваецца ў мяне, куды я іду.

Але хіба я ведаю сваю канчатковую мэту?
Я толькі спраўджваю тое, на што здатны,
што вымагае ад мяне жыццё:

засмяглы – п'ю ваду,
галодны – ем хлеб,
зняможаны – адпачываю,
адпачыўшы, імкнуся наперад –
і апынаюся на сваіх слядах.

Я ў крузе, дзе слова шукае С л о в а,
а чалавек – Ч а л а в е к а.

*1982*

## *Гаворка Саша*

Мой аднагодак Гаворка Саша, задумаў-
шыся глыбока, сядзіць каля груды жалез-
нага лому, у жоўтай пожні:
кашуля расхрысталася на ім,
ля скроні кроў запяклася...

– Саша, – я клічу яго, – хадзем разам
з усімі, з намі!..

А ён не адказвае анічога,
а ён застаецца на тым самым месцы,
а ён застаецца ў тым самым часе,
а ён застаецца на тым свеце,

дзівячыся на дарогу, па якой адыходзяць
усё далей яго аднагодкі.

*1982*

## *Сінія людзі*

Крышыцца пад нагамі зашэрхлы снег.
Цямнеюць ямы з вадою.
Сакавіцкая ноч: хаты, і вокны, і вуліцы, ды – без нікога.
Бязлюддзе ў маёй душы, бязлюддзе – у свеце.

І толькі хістаюцца нада мною прадвеснія дрэвы,
і толькі бягуць па небе аблокі,
і толькі імчыць кудысьці месяца сіні човен,
а ў ім сядзяць сінія людзі.

*1982*

## *Маланка*

Тады, калі я ўвайшоў у бажніцу і, зачыніўшы дзверы, стаў гутарыць з небам, з неба раптоўна ўпала маланка і раскалола бажніцу надвое.

Людзі, якія прыйшлі на світанні, адбудавалі з адной яе палавіны бажніцу світання,
а людзі, якія прыйшлі на змярканні, адбудавалі з другой палавіны бажніцу змяркання.

– Хадзі да нас, – заклікаюць мяне адны, – гэта ж твая бажніца: ты зноў тут зможаш казаць свае словы да неба...

– Хадзі да нас, – пераймаюць мяне другія, – гэта твая бажніца: ты зноўку тут зможаш слухаць, што кажа неба...

А я ўсё стаю на тым самым месцы,
здранцвелы,
уражаны,
праяснёны,
не маючы мовы, каб гаварыць, –
з маланкаю ў сэрцы.

*1983*

## *Сыны Іова*

Мае браты збіраюцца разам – на святы, нарады, справы, што тычацца нас усіх.

Але я сцярожка сачу наўкола.
Я ўхіляюся ад сумесных сустрэч.
Калі ўсе прысутнічаюць, нехта, хоць бы адзін, адсутнічаць мусіць.

Я вартаўнік лёсу.
Я не магу яму даверыцца.
Я памятаю пра сыноў Іова: яны загінулі, калі сабраліся пад адною страхой усе разам.

*1983*

## *Палёт*

Дакуль мне яшчэ трываць?

Птах, з якім я лячу праз імглістую бездань часу, з няволі – у вызваленне, са скрухі – у радасць, з цемры – у светлыню, паварочвае да мяне галаву і кажа:
датуль, пакуль хопіць часу,
датуль, пакуль хопіць цябе самога,
датуль, пакуль хопіць нас...

Я кармлю птаха сваім целам,
паю сваёю крывёю
і перастаю ўжо адрозніваць, дзе ён, а дзе я,
а дзе час...

Усё загойваецца на мне маё цела,
усё аджывае ўва мне мая кроў,
усё патрабуе птах сабе новай ежы,

і ўсё доўжыцца праз стагоддзі наш нерухомы палёт.

*1983*

## *Прыкметы*

Каб адгарадзіцца ад выпадку,
мы абгарадзілі сябе каменнай сцяною,
забрукавалі дол,
паставілі громаадводы,
уклалі законы,
распланавалі сваё жыццё далёка наперад –
на дзесяцігоддзі, стагоддзі, але...

Але на самым пачатку лета зажоўкла бярэзіна ў скверы,
але каля самае ратушы раптам, з палёту, упала мёртвая птушка,
але загарчэла вада ў студнях,
але старыя людзі спыняюцца на дарозе і кажуць: «Мы чуем, як плачуць нашы бацькі...»

*1984*

## *Лясная дарога*

Едзем на возе з Хведаркам Барадатым па даўняй лясной дарозе.

Павыступалі з зямлі вузлаватыя карані, быццам чыесьці крыкі і нараканні.

Апавядае Хведарка Барадаты, як шмат тут чаго за вякі адбылося:
як людзі людзьмі пераймаліся,
як людзі людзьмі рабаваліся,
як забіваліся людзі людзьмі...

– Я ведаю, – кажа ён, – толькі трохі, ды ўсё, што было тут, да самых апошніх драбніц, адкрыецца на судзе, на тым страшным судзе, дзе ўзважвацца будуць людскія душы.

Просяцца ў нас, каб падвезлі, каго даганяем: дзядзькі, дзецюкі, маладзіцы, падлеткі, жанкі, старыя, – і мы іх бяром, бо ўсе, хто ні ёсць на гэтай дарозе, ужо не староннія нам, не чужыя, ужо, нейкім чынам, с в а е.

Зыбаецца воз па пяску, ляскоча воз па карэнні,
Хведарка Барадаты махае лейцамі і паганяе каня...
Цесна пасеўшы, усім хаўрусам едзем па даўняй лясной – па людской!.. – дарозе, едзем на страшны суд.

*1985*

## *Танец з вужакамі*

Змаганне захоплівае мяне: яно разнявольвае ўсе мае здольнасці, яно абуджае ўсе мае сілы, яно становіцца танцам, яно становіцца святкаваннем, яно тчэ з маіх рухаў свой непаўторны ўзор.

Я ашчаджаюся ад яго. І чакаю яго.

А з мора ўжо вынырнулі дзве вужакі – дзве неспатольныя помсты.
Яны апантана накідваюцца на мяне, абкручваюць слізкімі шчыльнымі звівамі, пстрыкаюць джаламі ў самы твар...

Я аддзіраю іх ад сябе, я душу іх рукамі, тапчу нагамі, кручуся, уюся, крычу...

Навокал, з усіх бакоў, збіраюцца гараджане. Нібыта прыцягнутыя магнітам, яны глядзяць на мой адчайны міжбой, на мае пагібельныя вымогі...

– Якое відовішча!.. – у захапленні, я чую, гамоняць яны. –
Мы першы раз назіраем такі напружаны рытм,
мы першы раз бачым такі выкшталцоны танец.

*1985*

## *Госці*

Госці прыйшлі ў мой дом.

Пытаюся, што ім трэба.
Адказваюць госці: мы хочам узяць свой скарб.

Пытаюся, хто яны.
Адказваюць госці: гаспадары.

Відаць, памыліліся госці і забрылі не ў той дом. Я жыву тут ад нараджэння і ведаю ўсё да апошняй драбніцы: вунь – столь, вунь – падлога, вунь – рэчы, бо ўсё, што ні ёсць тут, – яно маё.

Ды госці ўзрываюць маснічыны – і дастаюць з-пад іх куфар,
вымаюць пару цаглін са сцяны – і ўжо трымаюць шкатулку ў руках,
лезуць пад столь – і выцягваюць з нейкай шчыліны нейкі скрутак...

І вось я стаю ў сваім доме – госць.

*1986*

## *Паляванне ў райскай даліне*

А потым мы выйшлі ў даліну...

Сінелі ўдалечы горы, урачыста высіліся лясы, і ззяла на небе не сонца, а само неба, нібы блакітная лінза, свяцілася мяккай, лагоднай, прыязнаю светлынёй.

Рупіліся на спелых палетках мірна гожыя дужыя людзі, а на зялёных лугах, у гаях гуляла і жвавілася няпужаная зверына.

Мы доўга моўчкі стаялі, удыхаючы водар шчасця, што напаўняў даліну, ды потым, урэшце, нібы намагаючыся, згадалі, што мы не адгэтуль, што мы не такія, што нам ужо трэба вяртацца, і тады грымнуў стрэл...

Усяго адзін стрэл, але ўся даліна павярнулася тварам, ураженая, да нас.

І вось ля самага небаспаду ўзнікла чырвоная хмарка і шпарка пасунулася-паплыла сюды, за ёю другая і трэцяя, цэлая чарада, і з кожнай гэтай чырвонай хмаркі на спелы ўраджай палеткаў, да ног нашых, сталі падаць і нагрувашчвацца ў кучы целы забітых казуляў, вавёрак, зайцоў...

Не з ношкай здабычы, а з ношкаю цяжкай гнятлівай віны мы адступалі – і ўсё адступаем яшчэ – з той дзівоснай, з той райскай, загубленай намі, даліны, куды нас завёў аднойчы наш паляўнічы лёс.

*1992–1993*

## *Спарышы*

Бы дрэва, што мае адно карэнне, а дзве паставы, я – спарышы.

Той свет і гэты з’ядноўваюцца ўва мне, знаходзяць смерць і жыццё ўва мне ўвасабленне.

З дня ў дзень, з году ў год, з веку ў век збіраюся з тайнаю моцай, каб калі-небудзь абвергнуць сваё існаванне, адолець дваістасць і стаць насампраўдзе сабой.

На запытанні «Чаму?» і «Навошта?», з якімі скіроўваюся ўвышыню, вяртаецца мой адгалосак – рэха і, доўга вандруючы ў пространі між спарышоў, знікае.

Я ведаю: гэтак, як ёсць, не павінна быць.
Але гэтак  ё с ц ь.

*1993*

## *Навальніца*

Яшчэ над зямлёю па-летняму ззяла сонца, цягнуліся ў вабныя далячыні барозны палёў і кветкі дарылі паветру свой шчодры водар, ды ўжо, быццам зрок пачынаў недакладна бачыць, прастора нацягвалася смугою і ў крыку імклівых ластавак чуўся спалох.

Нешта ў прыродзе было не так, і, каб даўмецца, дзе яно, тое не так, я спыніўся і азірнуўся, і вось – нібы тыя малюнкі, што малявала лета, былі адно толькі маімі ўяўленнямі, а цяпер наставала сама сапраўднасць – знямелы, убачыў: паветра трымціць і віруе, і змрок перамешваецца з бліскатнай светлынёю, і вогненныя пісьмёны крэсляцца ўсцяж...

Блізка страшэнная навальніца, і сховаў, каб ад яе ўхіліцца, няма.

*1995*

## *Старэйшы брат*

Яны як дзве кроплі вады падобныя між сабою, і я называю міжволі малодшага брата імем старэйшага: Анатоль.

Ён толькі што выйшаў з лодкі і адчувае сябе на сушы не дужа ёмка, бы рэкі, якімі ён плаваў, зрадніліся з ім і не хочуць яго яшчэ адпусціць.

Старэйшы быў лётчыкам, і ўжо цяжка злічыць, колькі гадоў мінула, як ён са сваім самалётам, уцягнуты ў вір апраметнага віражу, разбіўся.

Але аднекуль прабілася і пасялілася між людзей упартая дзіўная чутка, што ён не загінуў зусім, а займеў не вядомую людзям магчымасць вярнуцца назад, на зямлю, у сваё жыццё.

Каб нешта сказаць, пытаю малодшага брата, ці вучыцца ён, ці працуе, ці проста застаўся дома і ці мяне пазнае, а ён на мой роспыт адказвае з нейкай унутранай неахвотай, бы тое, што адбылося, не да канца яшчэ адбылося і мусіць чакаць свайго завяршэння, і зноўку мне здасца, што гэта старэйшы брат.

Далёкія сінія вербы гнуцца пад ветрам.
Рэкі, напоеныя разводдзем, поўніць спакой.

*1996*

## *Пагарджаны прарок*

Што надыходзіла – адышло, што абяцалася – пастаяла, як белае воблака над галавой, і паціху растала.

Так многа было малых і вялікіх падзей – а самай істотнай усё-такі не хапіла, так многа было сустрэч – але ўсе яны ўжо за мяжою часу і адгукаюцца калі як.

– Чалавек, ты з’еў свайго Бога, – казаў велікодным днём пагарджаны прарок і стукаўся велікодным чырвоным яйкам у чорны камень.

Вось, мёртвае ажыло.
І вось, жывое змярцвела.

*1997*

# *Цуд*

Рака разлілася і падплыла да самых падворкаў, і рыба, якая раней не хацела лавіцца ні ў якія хітрыя сеткі, цяпер сама давалася ў рукі.

Нутром адчуваючы, што насампраўдзе так не павінна быць, што гэта нейкае ашуканства, людзі ў кашы, у мяшкі, у начоўкі паспешліва набіралі ахвотнай, быццам сп’янелай, рыбы, што не знаходзіла месца сабе ў вадзе.

І сам я, выпхнуты з чыстых глыбокіх віроў на паверхню, курчуся разам з астатнімі рыбінамі ў пакутах, усёй сваёй безгалосай істотаю крычучы: «Людзі, глядзіце, глядзіце, людзі, калі набліжаецца згуба, яна пасылае перад сабою цуд».

*1997*

## *Голас*

Гукаю і чую свой голас.
Ён займае і гул ракі, і водгулле грамады, і цішу далёкага лесу.

І пакуль ён гучыць і, усюды прыняты і заахвочаны ўсюды, мае адвагу і моц гучаць, у гэтай краіне ён не чужы і не свой, а – сама, заснаваная мной, краіна.

*1997*

## *Восень*

Дождж то ўсчынаецца, то замірае.
У глейкія жоўтыя лужы глядзіць невідушчае неба.
Купка згалелых, нібы жабракоў, стаўбуроў кукурузы тоўпіцца ля дарогі.
Яшчэ лагчыны і ўзмежкі хваляцца зыркаю зелянінай і свежаю шчодраю чырванню адсвечваецца ралля.

Але прастора – прагал.
Але наваколле – ростань.

Вяртаюцца з поля павольнай хадою разам бабуля і ўнук.

*1998*

## *Сляпы мастак*

Трымаючыся за платы, спатыкаючыся аб каменне, правальваючыся ў свежа насыпаныя магілы сваіх сяброў, ён ідзе ў той даўні, далёкі, вясновы сад, што некалі цвіў ад зямлі да неба і прысвячаў яго ў неўміручасць і ў якім ён, яму здаецца, нешта забыў.

З таго, што ён маляваў, паўставалі карціны, што мелі свае памеры, попыт і кошт, аднак ён сам маляваў не іх, а тое, што запыняла ўвагу і падавала голас і чаго ён дарэшты не мог убачыць і зразумець.

Белае бегла ў свет і вабіла за сабою, чорнае моўчкі малілася каля сцяны, чырвонае ўрушвалася ва ўчынкі, жоўтае жала з’яву, зялёнае слухала казку, блакітнае абяцала, сіняе спраўджвала сны.

І хоць ніколі потым ён больш не быў у садзе, сад незаўважна заўсёды стаяў у яго за вачамі, нібы ён сам быў адно адмысловай прыладай, як пэндзаль ці фарбы, а маляваў насампраўдзе сад.

Ён ідзе тым, што здзейснілася, і невідушчасць знаходзіць дарогу, што скончылася, а прыйдзе – паўстане між дрэў, і дрэвы абступяць яго, як сябры, і нейчыя рукі спагадна ў рукі яму давацьмуць спелыя, пахкія, шчодрыя падарункі – плады.

*2000*

## *Ляснік Амелька*

Ляснік Амелька чытае ўначы старую святую кнігу і ў ёй вычытвае, што ён сёння памрэ.

Ён зачыняе наглуха дубовыя аканіцы, замыкае на засаўку і завалу дзверы, убівае ў сцяну лесніковы свой нож і кладзецца на лаву спаць.

І чуе праз сон, як нехта настойліва стукаецца ў дзверы і ў аканіцы, як за сцяною блукаюць трывожныя галасы, але абудзіцца не можа.

Ён спіць і не ведае, што з-пад зямлі прабілася раптам чырвоным вірлівым патопам крыніца, што навакольныя вёскі ў ад'ездзе і што яго хата ў крыві.

*2002*

## *Шэрыя гусі*

Спачатку Ян думаў, што гэта крылатыя бомбы, і міжволі памкнуўся пад шаты блізкага дуба, а ўгледзеўся – убачыў, што гэта ляцяць да зямлі шэрыя гусі.

Такое пасланне паслалі нябесныя караблі, што нейкі час нерухома, нібы развагажаючы, што ім рабіць, віселі над сціхлым, гатовым прыняць сваю долю, мястэчкам.

А гусі, ледзь апусціўшыся, падаліся ўсёй чарадою да Яна і, абступіўшы яго, як брата, што быў згубіўся і вось адшукаўся раптам, выкліквалі-вымаўлялі свае безназоўныя словы, якія, на дзіва, Ян разумеў.

«Неба спусцілася на зямлю, і першапачатак з намі. У ім вызваленне, у ім ратунак, у ім жыццё», – сказаў, што спазнаў і чым сам ужо стаўся, Ян самапершым людзям, з якімі спаткаўся, і шчаснай, зарослай травою мурожнай, сцяжынаю рушыў насустрач шынкам і бажніцам з гусінаю чарадою ў блізкі, утулены ў лета, свет.

*2003*

## *КВАНТЭМЫ*

*

хлеб назусім
аднойчы
дасца
зброя
без вобразу нябыт
прыўзніме лёзы рунь

*

насенне самародзіць
помніць вырай
рай унутры

*

руіны запарушваюцца
рунь
уваскрашае руны
неба блізка

*

пярэчаць рэчы
гіну ў гліну
твар
навыварат

*

вішні цвітуць
ці тут
вышняе
ў кірсе лішні

*

імгненні ў гамане
я не
з камення
вымаю кветкі
моліцца агонь

*

нямая яма
хата мае
птах
пытае хто ты

*

ад цела налева
пашытая світа
да цэлага
сіта
вітаецца я і ты

*

высноўваюцца словы
цела ці
у ніве ацалелы
сны наяве

*

гартае грамада
ад брамы да
вартуюцца грымоты
статут тутка

*

згасаюць ліхтары
ў пасагі сонцы
парадкуюцца літары
і ты

*

чытаюць акалічнасці
што клічу
ці шчыт ці меч
ці шчыліны ні з чым

*

снамі відушчы
вяду абсягі
самі ізгоі
гояцца пісягі

*

дзіўлюся з-пад кары
недаспатканы
у статку пасткі
людзям у карысць

*

маланка вымалёўвае
карэнне
у цемры церам
пацеры цяпер

*

адзенне ўголас
ведае іголка
дагэтуль згода
голы неспадзеў

*

гутару з рунню
старонні
струны
настройваюцца знутры

*

пільнуюць спілаванае
пні
ў плыні
парушанае
хвілі ўпершыню

*

разгадваю таямніцу
сюды-туды
гайдаецца маятнік
суд адсутны

*

высноўваецца сон
нясу драбіну
уброд дзе буду
рыбіна ў вадзе

*

маскі знаўкола
смак раіць
акраец
макаецца ў малако

*1974–2017*

# ЗМЕСТ

Вершы ........ 5
Пошук ........ 5
Маланка ........ 6
Мова ........ 7
Спякота ........ 8
Адкрыццё ........ 9
Немагчымае ........ 12
«Ноч гасіць у вокнах агні...» ........ 14
Чалавек ........ 15
Вытокі ........ 16
Эксперымент ........ 17
Шчасце ........ 19
Паганіні ........ 20
Сакавік ........ 23
Дрэвы ........ 25
Запавет ........ 28
Радзіма ........ 29
«Не распнутае доляю ўбогай...» ........ 30
«Адно сказаць...» ........ 32
Арышт Кастуся Каліноўскага ........ 34
Папярэджанне ........ 36

Пункціры ........ 39

Версэты ........ 71
Дарэшты ........ 71

Пярэчанне ....72
Спадчына ....73
Шыльдачкі ....74
Бязмежжа ....75
На гэтай зямлі ....76
У крузе ....77
Гаворка Саша ....78
Сінія людзі ....79
Маланка ....80
Сыны Іова ....81
Палёт ....82
Прыкметы ....83
Лясная дарога ....84
Танец з вужакамі ....85
Госці ....86
Паляванне ў райскай даліне ....87
Спарышы ....89
Навальніца ....90
Старэйшы брат ....91
Пагарджаны прарок ....93
Цуд ....94
Голас ....95
Восень ....96
Сляпы мастак ....97
Ляснік Амелька ....99
Шэрыя гусі ....100

Квантэмы ....101

**Разанаў**, А.

Р17 Перавыбранае / Алесь Разанаў; уклад. Г. Кісліцынай. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2017. — 112 с. (Паэты планеты).

ISBN 978-985-7164-74-5.

Алесь Разанаў (нар. 1947) – беларускі паэт-наватар, авангардыст, рэфарматар паэтычнай мовы; майстар такіх жанраў, як пункцір, версэт, квантэма, зном, злёса, вершаказ. Яго творы перакладзены на шэраг моваў свету, а некаторыя паэт сам напісаў па-нямецку і па-літоўску.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Бел)-5**